Цана асобнага нумару 20 гр.

Przesyłka opłacona ryczałtem.

№. 2. Вільня, Нядзеля, 17 Студзеня 1926 г. Год II.

# СЯЛЯНСКАЯ НІВА

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі:
Вільня, Завальная вул. 7. — (Wilno, ulica Zawalna 7).
Рэдакцыя адчынена штодня ад 9 да 6 гадзіны апрача сьвята.
Газэта выходзіць раз у тыдзень.
Падпіска на адзін месяц 1 зл., на 3 мес.—2 зл., на 6 мес.—4 зл., на год—8 зл.
Перамена адрэсу 30 гр.

Цана абвестак:
на 1 старонцы 30 грошаў, на 2 і 3 — 25 грошаў і на 4 — 20 грошаў за радок дробнага друку ў ваднэй папосцы.
Жадаючыя іншых абвестак, павінны зьвярнуцца да Адміністрацыі.

**Орган Беларускага Сялянскага Саюзу.**

## Новая Ліга Народаў.

Прачытаўшы аб новай Лізе Народаў, многія могуць зьдзівіцца, ведаючы дагэтуль толькі аб аднэй Лізе Народаў, у руках якой знаходзяцца лейцы палітыкі пасьляваеннай Эўропы. Аднак сяньня час-ад-часу ўжо з'яўляецца новая думка аб нейкай новай Лізе Народаў. Справа гэта не пазбаўлена свайго сэнсу і рэальнай магчымасьці, а дзеля гэтага варта бліжэй да яе прыгледзіцца.

Пасьля вайны паўстала Ліга Народаў з сялібай у Жэнэве. Мэта яе: захаваць на сьвеце супакой на асновах, прынятых Вэрсальскім Трактатам у 1919 годзе.

У склад гэтай Лігі сьпярша ўвайшлі самі пераможцы ў сусьветнай вайне, а пасьля і многія іншыя, якіх гэтыя пераможцы да сябе дапусьцілі. Не дапускаюць яны да сябе з прынцыпу народаў, нямаючых сваей дзяржавы і народаў, што ў сэнсе культурнага разьвіцьця стаяць ніжэй ад Эўропы, або маюць культуру сусім розную ад культуры эўропэйскай, як большасьць народаў Азіяцкіх. З гэтага бачым, што Ліга Народаў сусім ня слушна прысвоіла сабе назову „Народаў", бо ў сябры яе прымаюцца толькі дзяржавы і то ня ўсе, а такжа бачым, мэты гэнай Лігі такжа далёкія ад агульна людзкіх ідэалаў, як далёкі ад іх той палітычны стан у Эўропе, які стварыў Вэрсальскі Трактат.

Ліга Народаў найбольш мае хлопатаў з Радавай Расеяй, бо гэта апошняя сьніць сны аб сусьветнай рэвалюцыі, а Ліга імкнецца да захаваньня сучаснага палітычнага і соцыяльнага стану Эўропы. На запросіны Лігі, ўступіць у склад яе сяброў, Расея покуль што ўпіраецца. Загневана за гэта на Расею Ліга, як толькі можа, шкодзіць Расеі, асабліва не пазычаючы грошы і спаганяючы вялікія царскія даўгі.

Сучасная Расея даўно зразумела, што найстрашнейшы вораг савецкага палітычнага і соцыяльнага строю, гэта — Ліга Народаў. Дзеля гэтага ўжо некулькі гадоў, як Расея ўсю сілу сваей палітыкі, уплываў і грошы ськівавала ў Азію і Афрыку, дзе цэлая мноства чырвоных, жоўтых і чорных народаў знаходзіцца ў палітычнай і соцыяльнай залежнасьці ад галоўных дзяржаў Эўропы. Усе гэтыя Азіяцкія і Афрыканскія народы становяць аж некалькі сот мільёнаў, даўно ўжо імкнуцца да сваей роднай культуры і да таго, каб прагнаць з зямлі сваей чужынцаў і вызваліцца ад іх начыста.

Расея ўсё гэта ўзяла пад увагу і як грашмі, так і людзьмі гэным народам памагае ў іх барацьбе з Эўрапэйцамі і Амэрыканцамі.

Мэта гэтай расейскай палітыкі ясная: прагнаць з Азіі і Афрыкі Эўрапэйцаў і Амэрыканцаў і лейцы да кіраваньня імі ўзяць у свае рукі, мецць там усюды свае ўплывы і арганізаваць народы Азіі і Афрыкі ў сільны проціўэўропэйскі і проціўамэрыканскі саюз. Расейскія палітыкі і дыпляматы работу ў гэтым кірунку вядуць дужа энэргічна і часта з пэўнымі пазытыўнымі рэзультатамі. Нават ёсьць чуткі, што аб падобнай працы і яе плянах Расейскі Камісар Заграгічных Спраў прабуе гаварыць публічна. Сьвежа падпісаны дагавор з Турцыяй і імкненьне Расеі ўзяць пад сваю апеку народы балканскія такжа пацьвярджаюць гэныя шырока задуманыя пляны расейскай палітыкі.

У гэтую Лігу Народаў увахадзілі-б ня толькі народы дзяржаўныя, але і ўсякія іншыя. Калі-б такая новая Ліга Народаў паўстала, а што, як мы ўжо сказалі не пазбаўлена магчымасьці, дык у склад яе разам з Расеяй пэўня-ж увашла-б і Радавая Беларусь. А калі-б гэта сталася, то рэч ясная, што Беларусь асабліва ў сэнсе палітычным магла-б вырасьці значна.

Астаецца толькі пажадаць, каб нашы браты ў Радавай Беларусі, творачы сваю культуру і гадуючы новых працаўнікоў на беларускай ніве, як найменш расплываліся ў нейкай міжнароднай камуністычнай імгле, а больш зварачвалі ўвагі на нацыянальнае ўзгадаваньне і сапраўдную абарону праў соцыяльных шырокіх сялянскіх беларускіх масаў. Ад народу і праз народ да агульна-людзкага збратаньня, а не наадварот.

Падзеі сучаснай гісторыі чалавецтва ідуць дужа хутка, дык трэба нам гатавацца, каб магчы з гэных падзеяў карыстаць належна.

## З працы Беларускага Пасольскага Клюбу у Сойме.

У працягу 25 паседжаньняў Сойму, якія адбыліся ў часе ад 6 кастрычніка 1925 г. да новага 1926 году, апрача выступленьняў паслоў з Беларускага Пасольскага Клюбу на пленуме Сойму, якіх прамовы былі ў сваім часе падаваны ў беларускай прэсе, Беларускі Пасольскі Клюб падаў вось якія прапазыцыі і інтэрпэляцыі:

**Прапазыцыі:**

№ 37. 6.X. 1925 г. у справе спрэчнага з уставай выканаўчага распараджэньня 24.IX. 1924 г. да ўставы 31 ліпеня 1924 г. аб дзяржаўнай мове і мове ўрадаваньня ўрадовых і самаўрадовых адміністрацыйных уладаў.

№ 38. 20.X. 1925 г. у справе спыненьня карна-судовага сьледства проціў пасла Ю. Сабалеўскага.

№ 39. 11.XI. 1925 г. у справе распараджэньня Міністра Р. В. і П. Прасьв. датычачага ўвядзеньня ў школах з выкладовай няпольскай мовай навучаньня гісторыі і географіі агульнай ня ў роднай мове. (Гэтая прапазыцыя падана ад імя: Беларускага Клюбу, Нямецкага, Жыдоўскага Кола, Беларускай Грамады, Клюбу Украінскага).

№ 40. 29.XII. 1925 г. у справе прасьледаваньня Польскім Урадам беларускага школьніцтва і нарушэньне праз гэта Вэрсальскага Трактату, арт. VII Трактату паміж Польшчаю ды Расеяй і Украінай, падпісанага ў Рызе 18 сакавіка 1921 году.

**Інтэрпэляцыі:**

№ 278. 6.X. 1925 г. у справе надужыцьцяў камэнданта пастарунку паліцыі ў Снове, Захарэвіча.

№ 279. 6.X. 1925 г. у справе самаволі, біцьця і безпадстаўных арыштаў, дакананых пастарункам паліцыі ў Сьвіры, Сьвянцянскага павету.

№ 280. 6.X. 1925 г. у справе нязгоднага з праўдай адказу на інтэрпэляцыю Беларус. Клюбу ў справе безпраўнага налажэньня маёнтковага падатку і пабіцьця сэквэстратарам і паліцыянтам солтыса в. Грыбоўцы, Галынскай вол., Горадзенскага павету.

№ 281. 6.X. 1925 г. у справе звароту 200 руб. золатам, забраных палявой жандармэрыяй Юльцы Поляк.

№ 282. 6.X. 1925 г. у справе надужыцьцяў паліцыі Паланэцкага пастарунку, Баранавіцкага павету.

№ 283. 20.X. 1925 г. у справе канфіскаты № 32 бел. часоп. „Krynica".

№ 284. 20.X. 1925 г. у справе прасьледаваньня прыватнага беларускага школьніцтва.

№ 285. 20.X. 1925 г. у справе другога адказу на інтэрпэляцыю аб звальненьні кватэры Якуша у м. Свіслачы, Ваўкавыскага павету.

№ 286. 20.X. 1925 г. у справе выбару солтыса ў в. Крэпачы, Гарадышскай воласьці, Наваградскага павету.

№ 287. 22.X. 1925 г. у справе прысьпяшэньня судовага сьледства проціў Ю. Салюка.

№ 288. 5.XI. 1925 г. у справе арыштаў у Пружанскім пав. і катаваньня арыштаваных.

№ 289. 5.XI. 1925 г. у справе арышту Паўла Дылько.

№ 290. 11.XI. 1925 г. у справе безпраўнага заняцьця ўладамі будынкаў, будучых уласнасьцю праваслаўнага кляштару Св. Тройцы ў Вільні.

№ 291. 9.XII. 1925 г. у справе невыконываньня пракурорам і Акружным Судом у Вільні ўставы ад 31.XII. 1924 г. аб мове ўрадаваньня судоў, пракурорскіх канцэлярыяў і натарыяту.

№ 292. 9.XII. 1925 г. у справе канфіскаты № 10 „Biełaruskaj Krynicy".

№ 294. 14.XII. 1925 г. у справе недаручаньня почтай у Суботніках, Валожынскага пав., беларускіх газэт.

№ 295. 17.XII. 1925 г. у справе ўстрыманьня сячэньня лесу, прылягаючага да грунтаў в. Оцьмінава, Усєлюбскай вол., Навагр. павету.

№ 296. 28.XII. 1925 г. у справе катаваньня вывядоўцамі Антона Сіцько і Ляськевіча.

№ 297. 28.XII. 1925 г. у справе невыконываньня школьнымі ўладамі языковай школьнай уставы адносна школы ў в. Бэршты, Горадзенскага павету.

№ 298. 28.XII. 1925 г. у справе невыконываньня языковай школьнай уставы адносна школы ў вёсцы Блудэнь.

№ 299. 28.XII. 1925 г. у справе несправядліва вымеранага даходавага падатку Ф. Савэйко і А. Галузо, праж. у в. Усова, Пліс. вол., Дзісьненскага павету.

# ПРАМОВА

## пасла Ярэміча ў Сойме 30.XII. 1925 г. у справе ўставы аб чужаземцах.

Высокая Палата!

Уся гэтая ўстава ёсьць ськіравана выключна проціў нас. Бо трэба ведаць, што бадай 95% беларусаў аж да сяньня ня маюць абыватэльства. А гэта затым, што цэлыя іх масы падчас вайны выяжджалі ў Расею, а дакумэнты, як кнігі мэтрычныя, так і іншыя былі вывезены. Дзеля гэтага цяпер гэтая люднасьць ня можа даказаць сваю прыналежнасьць, як кажуць, „do ksiąg stałej ludności“.

Дык калі сяньня будзе прынята гэтая ўстава, то цэлыя масы нашай люднасьці ня змогуць дастаць сабе пашпартоў і будуць змушаны працярпець розныя над сабой зьдзекі паноў старастаў і паліцыі.

Ды-й агулам, я зьяўляюся праціўнікам пашпартавай сыстэмы. Мне здаецца, што спасярод паслоў ёсьць нямала людзей, якія за часаў царскіх урадаў працавалі патаемна. Я так-жа займаўся гэтым і меў тады аж 4 падробленыя пашпарты. Калі хто хоча мець пашпарт, заўсёды можа яго здабыць.

Словам, пашпарт бадай цалком не забясьпечвае дзяржаву ад непажаданых для яе людзей.

Затое для цэлых масаў людзей, асабліва для сялянства, гэтая ўстава будзе нябывалым цяжарам. Дагэтуль, калі ня было пашпартавага прымусу, паліцыя злавіўшы якога, напрыклад, безпашпартнага селяніна ў яго гмінным, ці павятовым мястэчку, памучыўшы яго і пастрашыўшы, выпускала на свабоду. А калі будзе прынята гэта ўстава і калі на моцы яе будзе заведзены пашпартовы прымус, то рознага роду зьдзекі паліцыі над безпашпартнай людносьцю будуць ужо мець праўны характар. Тым больш маем права так думаць, што 9 арт. уставы п.п. старастам дае права растрыгнуць, хто абыватэль, а хто не.

Дык калі сяньня, а гэта-ж факты, арыштоўваюць безпадстаўна па паветах нявіннай людносьці па 200, 300 і 400 асоб, то дужа магчыма, што п.п. старасты такіх арыштаваных не прызнаюць за абыватэлі свайго краю і загадаюць выкінуць за граніцу Радавай Беларусі і Літвы. А падчас такой падарожы часта з гэтай людносьцю будуць здарацца падобныя забойствы, аб адным з якіх гаварыў тут пасол Падгірскі. Прымаючы гэтую ўставу, Вы Панове, 90% людносьці беларускай і ўкраінскай аддаіцё на ласку і неласку розных катаў, аб адным з якіх расказваў нам тут учора п. Віцэ-Міністар Ольпінскі. А з вуснаў п. Ольпінскага мы даведаліся, што Ян Дубіна, як паказала сэкцыя яго трупа, быў на граніцы замардаваны, а ў рапарце паліцэйскім напісана, што Дубіна скончыў самагубствам.

Ужо Сойм прыняў уставу, падчас вайны даючую права ўраду перасяляць людносць; урад унёс Сойму ўставу аб адказнасьці масаў людзей за праступак аднаго чалавека ў якой аколіцы, гміне, ці павеце. Здаецца, што хапіла-б усяго гэтага. Тымчасам сяньня ўрад дамагаецца ад Сойму яшчэ гэтай уставы, так-жа накладаючай на людносьць нябывалыя цяжары і даючай адміністрацыі і паліцыі магчымасьць новых зьдзекаў над людносьцяй.

Але я мушу сьцьвердзіць, што гэтай дарогай, дарогай уціску і зьдзеку над безбароннай людносьцяй, ня прыцягнеце яе да сябе, аб што, Вам Панове, расходзіцца. Трэба іншую выбраць дарогу. Ня можна абыватэляў называць не абыватэлямі, ня можна край наш разважаць як нейкую Сібір, ці Індыю.

Я дамагаюся, каб арт. 1 гэтай уставы скасаваць, а на выпадак яго не скасаваньня далучаюся да прапазыцыі, каб уставу гэту адаслаць з паваротам у Камісію Адміністрацыйную.



**Фабіян Ярэміч**
Пасол на Сойм Рэчыпасп. Польскай.

Фабіян Ярэміч радзіўся ў 1891 годзе 20 студня, у Ваўкавыскім павеце, у малазямельнай сям'і вёскі Дуляўцы.

Ад 1907 да 1918 г. Ф. Ярэміч прабываў у Пецярбурзе, дзе скончыў электра-тэхнічную школу і ад 1912 г. працаваў у партыі сацыял-дэмакратаў меншавікоў, належучы адначасна і да беларускай соцыялістычнай грамады. За рэвалюцыйную работу быў два разы арыштаваны: раз у 1912 г., а другі—у 1913. У 1917 г. быў віцэ-старшынёй 4-га гарадскога раёну ў Пецярбурзе.

1918 г. Ярэміч прыехаў у Вільню, дзе быў начальнікам тэлефоннай станцыі. На гэтай службе прабыўшы тры гады, Ярэміча, як беларуса, звольнілі.

У Вільні Ярэміч увесь час аж да сяньня прымае самае дзейнае ўчасьце ў беларускім палітычным і грамадзім жыцьці.

Ад 1919 г. у працягу трох гадоў быў ён Старшынёй Віленскага Беларускага Нацыянальнага Камітэту, энэргічна выступаючы за пакрыўджаных прад уладамі.

У гэтым самым часе быў Ярэміч такжа сябрам Рады Беларускай Народнай Рэспублікі і сябрам прэзыдыума Беларускай Рады Віленшчыны і Горадзеншчыны.

1922 г. Ярэміч быў польскай уладай арыштаваны, будучы замішаны ў беларуска-літоўск. справу 33-х.

Падчас выбараў у польскі цяперашні Сойм, Ярэміч належаў да прэзыдыума Беларускага Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту і быў поўнапраўным прадстаўніком у Цэнтральным Выбарным Камітэце нацыянальных меншасьцяў у Варшаве. На гэтых грамадзкіх і палітычных становішчах Ярэміч палажыў дужа многа карыснай працы.

Будучы паслом, Ярэміч, апрача сваіх частых выступленьняў на пленуме ў Сойме, у абарону беларускага сялянства, дзеля абароны гэтага-ж сялянства працуе ня мала ў Соймавай Камісіі Адміністрацыйнай і ў Камісіі Турэмна-Сьледчай, у якіх ён ёсьць сябрам.

Пасьля выхаду з Беларускага Пасольскага Клюбу некаторых беларускіх паслоў, Ярэміч астаецца ў Клюбе як старшыня яго і разам з паслом Рагуляй закладае Беларускі Сялянскі Саюз, выстаўляючы праграму прадусім сялянскую і незалежніцкую.

# Гаспадарчы аддзел.

## Землязробскі крызіс.

(Працяг).

Цяпер паставім сабе пытаньне, ці цэны зямельных прадуктаў могуць так многа спасьці, што агульная вартасьць добрага ўраджаю будзе меншая ад агульнай вартасьці сярэдняга ўраджаю? На гэта пытаньне дае патакуючы атказ Г. Кінг, які выясьняе гэта, асновываючыся на такіх доказах:

Вартасьць кожнага дабра мераецца яго крайняй ужыткоўнасьцю, г.зн. інтэнсыўнасьцю апошняй (найменшай) патрэбы, якую можа задаволіць пэўнае дабро (тавар). Збожа належыць да такога дабра, якога людзкасьць больш-меньш у аднальковым ліку заўсёды спажывае. Скажам, калі работніку патрэбна што-дзень $2^1/_2$ фунты хлеба, то каб яму давалі $3^1/_2$ фунты хлеба, то ён усяго хлеба не спажыў-бы, а толькі патрэбны яму лік. Лішні фунт для работніка зьяўляецца сусім непатрэбным, хіба толькі для замены яго на іншае дабро. Там, дзе людзі недаядаюць хлеба, павялічэньне яго нормы будзе спаткана з аткрытымі рукамі, але-ж заўсёды такія людзі маюць замала спосабаў, каб магчы на'т па вельмі нявысокай (адносна) цане закупляць больш хлеба, як нармальна імі спажываецца. Сярэдне заможны чалавек заўсёды больш-менш спажывае аднальковы лік хлеба, ня гледзячы ці год быў больш ураджайны, ці мала ўраджайны (выключаючы галодныя годы), Адным словам, запатрэбаваньне на збожа з'яўляецца мала элястычным, мала паддаецца вялікім хістаньням. Сусім другае з прамысловымі таварамі, якіх спажыцьцё знаходзіцца ў простых адносінах з багацьцем людносьці; чым людносьць больш багацее, тым пачынае больш спажываць прамысловых тавараў. Гэтага сусім ня можна сказаць аб землеробскіх прадуктах, якіх спажыцьцё можа павялічывацца толькі да пэўных граніц. У зьвязку з гэтым, калі настае ўраджайны год, то часьць ураджаю, надвышка над звычайнай сярэдняй нормай ня будзе мець спажыўцоў, якія-б таксама пажадалі спажыць гэту надвышку як і сярэдне-патрэбную ім норму збожа. Іншымі славамі, гэта надвышка ня будзе задаволіваць шмат інтэнсыўна меншую людзкую патрэбу; вартасьць гэтай лішкі збожа дзя спажыўца будзе вельмі малой.

Калі нармальна пры сярэднім ураджаі была цана 1 руб., то пры добрым ураджаі гэтая цэна шмат пойдзе ў ніз, напр. на 75 кп., бо лішняе збожа лічыцца мала вартым для спажыўца. Гэтае паніжэньне цаны можа пайсьці так далёка, што агульная вартасьць добрага ўраджаю будзе меншая за агульную вартасьць сярэдняга (горшага) ураджаю. Гэтая зьявішча якраз мы спасьцерагаем цяпер у Польшчы ў параўнаньні да запрошлага году. Мінулы (1925) год, згодна са статыстыкай выказвае на 20—30% узрост ураджаю ў параўнаньні з запрошлым годам. Але ці ад гэтага ўраджаю палепшылася палажэньне гаспадара? Не, не палепшала, а наадварот, яшчэ пагоршала. Калі-б цана на збожа асталася залеташняя, то, рэч ясная, што ўвесь ураджай пашоўбы на карысьць гаспадара, але якраз цана ў працэнтах спала больш, чым у працэнтах падняўся ураджай. Выкажам гэта такім рахункам. Дапусьцім, што залетась (1924) гаспадар з ураджаю атрымаў 100 пудоў жыта, а летась 125 пудоў (ураджай падняўся на 25%). У кастрычніку залетась цана на збожа была 3 зл 50 гр., летась у кастрычніку цана на жыта спала да 2 зл. 50 гр. Такім чынам вартасьць ураджаю заселеташняга году, які быў годам неўраджаю, становіць 350 зл., а летась павялічаны ўраджай становіць толькі 312 зл. 50 гр. З гэтага аблічэньня відаць (не прымаючы на'т над увагу спадку вартасьці злотага больш-менш на 18%), што агульная вартасьць добрага ўраджаю зьяўляецца меншай ад агульнай вартасьці залеташняга горшага ўраджаю. Леташні лепшы ўраджай цалком, а яшчэ на'т з гакам (з пагаршэньнем палажэньня гаспадара) перайшоў на карысьць прамысловасьці, або іншых спажыўцаў.

Далейшым этапам нашага разважаньня будзе шуканьне прычын такога стану землеробскай вытворча-

# Новы Багдановіч.

(Літэратурны нарыс)

Беларуская літэратура адраджэнскага пэрыаду мае надта-ж невялічкі гурток песьняроў чыстае красы тварачых у імя прынцыпу „Мастацтва для Мастацтва“, якія, хоць і не здабылі покуль што належнае пашыранасьці сярод беларускай чытаючай публікі, дзеля нястачы інтэлігэнцыі, якую выключна і могуць цікавіць гэткія творы, але ў вачох гісторыка літэратуры маюць першараднае значэньне і з'яўляюцца тым ласьне элемэнтам, якім найбольш можам заімпанаваць чужаком у краіне літэратуры.

Вось-жа гэная група паэтаў-індывідуалістаў складаецца, з большаго, з гэткіх асоб: Максім Багдановіч, Канстанцыя Буйло; ды пазьнейшыя за іх: Натальля Арсеньнева, Уладзімір Жылка, Уладзімір Дубоўка і, часткава, Казімір Сваяк.

Але ня поўная дзявочага хараства эротыка К. Буйло, ні на'т сільныя імпрэсыі Н. Арсеньневай, не кажучы ўжо аб іншых, ня могуць усё-такі раўняцца з творчасьцяй валадара Беларускага Слова і Формы, Мастака Філёзафа Максіма Багдановіча, найвялікшага, побач з Купалай, песьняра зямлі беларускай. Дзеля таго перадчасная сьмерць М. Багдановіча († 1917 г.) была ўдвайне балючай для беларускага народу і літэратуры, бо-ж ня толькі згінула перад часам гэніяльная адзінка, але і ня відаць было таго, хто-б мог замяніць гэнага адзінага прадстаўніка вышэйазначанага літэратурнага кірунку.

І вось нядаўна толькі доўга-чаканы духоўны наступнік М. Багдановіча, які-б быў дастойны ўзяць у спадчыне па ім ягоную зачараваную Ліру—знайшоўся-т'кі наканец!...

З'яўляецца ім ніхто іншы, як толькі ўспамянуты тут ужо раз—**Уладзімір Жылка**, малады беларускі пясьняр, пражываючы цяперака ў Празе чэскай, аўтор двух зборнічкаў паэзыі: **„Уяўленьне“** і **„На ростані“**, друкаваных у Вільні. Кажам „знайшоўся нядаўна“ таму, што хоць першы ягоны зборнік з'явіўся яшчэ ў 1923 г., але падставы дзеля гэткага выраду даў нам толькі другі зборнік яго „На ростані“, выпушчаны ў канцы 1924 году.

І сапраўды, калі мы ў 1923 г. прачытывалі ягонае **„Уяўленьне“**, поўнае ўсходняга футурызму, экстравагантных зваротаў і форм, ды-й моцных сацыяльных і рэвалюцыйных нотак, якоеколечы шуканьне аналёгій паміж гэнымі вершамі і творчасьцяй Багдановіча на'т ня прыходзіла нам у голаў.

Гэта ня значыць аднак-жа, каб мы ў гэным творы з моцна выступаючымі ўплывамі расейскага модэрнізму, творы ў беларускай літэратуры найбольш зближаным да **„Беларусі“** Л. Родзевіча, не знаходзілі праяў таленту, ці мамэнтаў хараства.

Наадварот — мы іх бачылі шмат у гэнай адметнай, арыгінальнай кніжцы, якую з зацікаўленьнем і прыемнасьцю прачыталі, але, ня гледзячы на ўсё вышэйказанае, гэны скок у імглу футурызму, трэба прызнаць толькі няўдалым першым крокам начынаючага песьняра на шляху літэратуры.

Але быцьцё яго ў Празе не застаецца без рэзультаў; заходнія ўплывы перамагаюць у ягонай душы—усходнія, у выніку чаго ў другім яго зборніку пад назовам **„На ростані“** бачым, побач з памяркаваным модэрнізмам, **выразны зварот** да клясычных, акадэміцкіх формаў творчасьці.

І тут чуваць расейскія ўплывы, але побач з імі знаходзім і невялічкі ўплыў польскае літэратуры і захопленьне творчасьцяй нябошчыка М. Багдановіча, якога ён відаць бярэ сабе за ўзор, знайшоўшы ў ім родную сабе духовую арганізацыю.

Ужо пасьля прачытаньня першых толькі вершаў гэтага новага зборніка, прыходзе ў голаў раласная думка: „Ды гэта-ж зусім Багдановіч... Маем доўгачаканага наступніка... Маем новага Багдановіча!“

З кожным новым вершам гэта праконаньне расьце і гэтакае, усьцяж нарастаючае, пачуцьцё, не пакідае ўжо чытача ажно да самага канца кніжкі.

Чуецца неяк, што аўтор з бездарожжаў „Уяўленьня“, натрапіў урэшце на верную пуцявіну творчае працы.

Аўтор стае прад намі ў зусім новай, нечаканай пастаці.

Прыгледзімся-ж крыху бліжэй да вершаў гэнага новага зборніка.

сьці і адказ на пытаньне, чаму на прамысловыя тавары цэны дарагія і чаму зямельныя прадукты танныя?

Перадусім трэба сьцьвердзіць, што цэны земляробскіх тавараў маюць міжнародны характар. Гэта знача, што, больш-менш, на ўсім сьвеце цэны на збожа блізка падходзяць да аднэй нормы. Калі скажам, што ў Амэрыцы цана на жыта дасягае 3-х даляраў за 6 пудоў, то ў Англіі цана на жыта будзе блізкай амэрыканскай цане. Міжнародны характар цэнаў на земляробскія тавары тлумачыцца тым, што кошты земляробскай вытворчасьці паміма пэўных розьніцаў у зямельнай культуры, зьяўляюцца між сабой блізкімі.

Другое, земляробскія прадукты зьяўляюцца прадметам вольнага міжнароднага гандлю. Гэтая вольнасьць выражаецца ў тым, што збожа пераважна не падлягае аплаце мыта (cła) пры перавозе з тэрыторыі аднэй дзяржавы на другую. У Эўропе толькі Нямеччына і Францыя заводзяць мытную абарону на збожа, накладываючы 5—7 марак ад кожных 100 кг. прывознага жыта. Наагул-жа істнуё вольны гандаль збожам, гандаль без мытных перашкодаў,

Сусім інакш стаіць справа з прамысловымі таварамі. Прамысловыя тавары не падлягаюць вольнаму гандлю. Кожная дзяржава, за выняткам Англіі (пасьля вайны і Англія пачынае ўводзіць абароннае мыта на прамысловыя тавары) абараняе краёвую прамысловасьць пры помачы вышэйшага або ніжэйшага мыта. Рэч ясная, што там, дзе ўведзена высокая мытная аплата на заграні́чныя тавары, адпаведныя тавары зьяўляюцца дарагімі. Такім чынам у залежнасьці ад мытнай палітыкі і коштаў вытвару цэны на прамысловыя тавары зьяўляюцца рознымі ў розных дзяржавах. Доказам гэтага можа быць такое параўнаньне. Самы добры касьцюм у Лёндане ў кастрычніку 1925 года каштаваў больш-менш 50 рублёў, тады калі ў Варшаве такі самы (а мо' і горшы) касьцюм каштаваў больш-менш 100 рублёў. З гэтага відзім, што Польшча ў гэтай галіне вытворчасьці мае тавары даражэйшыя на 100% ад ангельскіх. Сусім інакш прадстаўляецца справа са збожам. Наадварот, цэны на збожа ў Англіі стаяць вышэй, як цэны на збожа ў Польшчы.

Доказам гэтага зьяўляюцца такія статыстычныя лічбы:

Цэны на збожа ў кастрычніку 1925 году, у злотых польскіх за 100 кг. (6 пудоў): *)

| | Варшава 12—17.X.1925. | Лівэрпуль (Англія) 5—10.X.1925 |
|---|---|---|
| 1. Пшаніца | 24,47 | 35,58 |
| 2. Жыта | 17,02 | — |
| 3. Ячмень | 20,09 | 38.83 |
| 4. Авёс | 18,67 | 26,83 |

Ня гледзячы на такія розьніцы сусьветным ёсьць зьявішча спадку цэнаў збожа пасьля вайны адносна да цэнаў на прамысловыя тавары. Сусьветныя цэны на збожа ў працягу даўжэйшага часу ўзрасталі да 1890 году. У гэтым часе якраз вельмі сільна разраслася прамысловасьць, былі застасаваны вынаходы і палепшылі тэхніку вытворчасьці. Дабрабыт, як прамысловай, так і земляробскай люднасьці ўзрастаў. Ад 1890 г. да 1914 г. былі стабільныя ўмовы. Цэны не падлягалі значным хістаньням, бо як прамысловы так і земляробскі тавар узрасталі ў пэўных сталых адносінах. Гэта значыць, што між лікам земляробскіх прадуктаў і лікам прамысловых тавараў істнавалі пэўныя сталыя адносіны, якія можна выразіць у лічбах 100 на 100.

Сто адзінак прамысловых тавараў у сусьветнай гаспадарцы раўняліся 100 адзінкам земляробскіх прадуктаў. А дзеля таго, што мы жывём у часе таварнай гаспадаркі, замене тавару на тавар пры пасрэдніцтве грошы, як меры вартасьці (крэдыт таксама), затым 100 адзінак прамысловых тавараў заменівалі на 100 адзінак земляробскіх; адначасна з гэтым адпаведна ўстанаўлялі цану на асобныя тавары. Цана аднэй адзінкі земляробскіх тавараў, раўнялася цане аднэй адзінкі прамысловых тавараў.

У часе вайны і пасьля вайны наступіла ў ваўсім гэтым зьмена. У вялікай меры зьменшылася прамысловая вытворчасьць, часьць прамысловых фабрык пачала працаваць спэцыяльна на ваенныя патрэбы. У часе вайны вытворчасьць прамысловых тавараў зьменшылася, бо не вярнулася да даваеннай нормы, чаго можа быць доказам вялікі лік безработных, якія да вайны працавалі на фабрыках, а цяпер сусім не працуюць. Адносіны даваенных 100 : 100 між лікам земляробскіх тавараў і прамысловых зьмяніліся на 100 : 80, бо прамысловых тавараў вытвараецца цяпер менш. Па ліку 100 адзінкам земляробскага тавару адказывае толькі 80 адзінак прамысловага; пры абмене за 100 пудоў збожа атрымліваеш толькі 80 штук або пудоў фабрыкатаў. Пры абмене тавараў замена вартасьць 80 адзінак фабрыкатаў раўняецца вартасьці 100 адзінак зямельных прадуктаў. А такім чынам, адзінка фабрыкату будзе даражэйшая за адзінку збожа, цана фабрычных тавараў будзе вышэйшая за цэны земляробскіх.

Апрача зьменшаньня агульнага ліку прамысловых тавараў, якое зьменшаньне ўздаражыла іх, цэны на прамысловыя тавары падняліся яшчэ дзякуючы ўзросту коштаў вытворчасьці. Пасьля вайны ўсюды заведзены 8 гадзінны рабочы дзень, выдайнасьць працы работніка, дзякуючы вайне, зьменшылася, а поступ тэхнікі так мала пашоў у гору, што наагул кошты прамысловага тавару ўздаражэлі. Да ўздаражэньня прамысловай вытворчасьці прычынілася сацыяльная законадаўства для работнікаў, якое вельмі шыбка пашло на перад, уключаючы на'т страхоўку ад безрабоцьця. Масы безработных (у Англіі 1,3 мільёна, у Польшчы 213 тысячаў), якія перад вайной былі заняты, цяпер не працуюць, а ўтрымліваюцца часткава коштам прамысловасьці, а часткава коштам усіх працуючых іншых.

Апрача сацыяльнага законадаўства на ўзрост цэнаў прамысловых тавараў уплывае т. наз. дарагоўля капіталу. Пасьля вайны сільна ўзрасла працэнтная норма ад капіталаў, апрача таго падняўся ў працэнтах заработак прадпрыемцы. Прадпрыемца цяпер не задаваліваецца даваенным заработкам, сьпяшаецца магчыма як найскарэй узбагацець, бо ня мае пэўнасьці, што істнуючыя ўмовы вытворчасьці і палітычнага жыцьця зьяўляюцца на даўжэйшы час сталымі. Калі прадпрыемца атрымлівае малы заработак з свайго інтарэсу, то ў кожную мінуту можа яго зліквідаваць, а капітал перакінуць у іншую галіну вытворчасьці. Адным словам, пры выбары поля працы прадпрыемца лічыцца толькі з заработкам, які можа атрымліваць з сваей вытворчасьці.

Сусім інакш стаіць справа з земляробскай вытворчасьцяй. Зьліквідаваць маёнтак, або гаспадарку і капітал перанесьці ў другую галіну вытворчасьці ня так лёгка. Як тэхнічна і фармальна гэта трудна правясьці, так ізноў трудна знайсьці капітал, які-б ахвотна з прамысловай вытворчасьці перайшоў на земляробскі. Апрача таго консэрватызм, традыцыі і вялікая прывязаннасьць гаспадара да зямлі не пазваляюць яму лёгка растацца з зямлёй і перайсьці да іншай вытворчасьці. Прымушан ён з вялікай стратай астацца пры сваей гаспадарцы, бо хаця яна і менш аплачываецца (або на'т сусім не аплачываецца, а даець дэфіцыт), але зьяўляецца для яго менш рызыкоўнай, чым вытворчасьць прамысловая. Зьявішча дабравольнай парцэляцыі маёнткаў, якраз сьведчыць аб гэтым, што няма ніякага рахунку вясьці маёнтак, лепш яго распарцэляваць, бо гаспадар сам будзе працаваць чуць не 16 гадзін у дзень, каб зарабіць на мазольны кавалак хлеба, тады, як парабкі дамагаюцца сацыяльнага законадаўства.

Негаворачы ўжо аб тым, што самастойны гаспадар працуе не азіраючыся на ніякія гадзіны, ані на ніякія агранічэньні працы кабет і дзяцей, што мае мейсца ў прамысловасьці, парабак — земляробны работнік, які працуе на чужой зямлі (як работнік на чужой фабрыцы) знаходзіцца ў куды горшых умовах, чым прамысловы работнік. Прадусім жыцьцёвая норма работніка шмат перавышае жыцьцёвую норму парабка. Рэч ясная, гэта адбіваецца пасьля на коштах вытворчасьці.

(Далей будзе).

**А. Більдзюкевіч.**

*) Wiadomości Statystyczne Głównego Urzędu Statystycznego z dnia 5 listopada 1925 r. № 21.

# З Радавай Беларусі.

## Аб перасяленьні беларусаў з Бабруйскай акругі.

Плянавае перасяленьне пачалося са студзеня м-ца 1925 г. За ўвесь час падана заяў ад 790 двароў, з іх у Сібір 342 заявы, на Далёкі Ўсход 338, у Паволжжа 107, у Карэльска-Мурманскі край 3 заявы. Усяго пакіравана ў розныя месцы 45 сялян, у тым ліку адна працоўная дружына з 16 чалавек.

(„Сав. Бел.“ 9.XII.25.).

## Беларускі Дзяржаўны Музэй.

### Гісторыка-археолёгічны пакой.

Першы папарадку ў БДМ лічыцца гісторыка-археолёгічны пакой. У гэтым пакоі гэткія аддзелы: старажытны пэрыяд (косьці старажытных жывёл—мамонта і інш.), потым ідзе каменны пэрыяд (далоты, лапаткі і іншыя прылады), далей — глінянае мастацтва (чарапкі глінянай пасуды), грыўны (старажытныя грошы—бронзовыя, срэбныя), матыкі; курганны пэрыяд, археолёгічныя раскопкі—2-х курганаў Рылаўскай групы і адзін курган Пятроўшчынскай групы.

Затым—манэтны аддзел: срэбныя, медныя, бронзавыя манэты — і апошняя частка — зброя (старажытная) — кальчугі, аружжа розных пэрыядаў і часаў, шчыты, каскі і інш. прылады вайсковай справы.

### Этнаграфічны пакой.

Этнаграфічны пакой таксама падзяляецца на асобныя часткі: хата сялянская (унутраны выгляд) з рознымі прыладамі хатняй патрэбы; куток пчалярства (з усімі інструмантамі, пачынаючы са старажытнай эпохі); музычныя інструманты, рыбалоўныя прылады, ганчарная вытворчасьць (пасуда розных часаў), сельска-гаспадарчыя прылады, тып с.-г, двара і інш.

Далей, у гэтым пакоі—розная зьвярына Беларусі: мядзьведзі, кабаны і апошняя частка—уборы беларускіх вышывак і тканіны.

### Жыдоўскі аддзел.

У жыдоўскім аддзеле галоўную ўвагу трэба зьвярнуць на выпрацоўку талейсімаў у 17 стагод. Гэта выпрацоўка ручным спосабам і цяпер яшчэ вядзецца ў Дуброўне (Аршанскай акругі).

### Старая і сучасная Беларусь.

Тут прыводзіцца параўнаньне ў партрэтах старых і сучасных беларускіх культурных дзеячоў. Партрэты ўсе намалеваны вядомымі мастакамі. З сучасных беларускіх дзеячоў партрэты: Ігнатоўскага, Я. Купалы, Я. Коласа, Ц. Гартнага. З боку знаходзіцца куток Леніна.

# Беларусы заграніцай.

## Канцэрт-акадэмія з прычыны 20 угодкаў творчасьці Янкі Купалы ў Празе.

Саюз грамадзян Б. С. С. Р. у Ч. С. Р. 22 сьнежня 1925 году ладзіў вечар на чэсьць 20 угодкаў паэтычнае дзейнасьці Янкі Купалы ў салі Акадэміцкага дому ў Празе. На сьвяткаваньне быў запрошаны чэскі праф. д-р Неедлы і інтэрнацыянальны хор пад кіраўніц-

---

Змест ягоны ўмела падзелены на 4 аддзелы: 1) патрыятычны — „**Бацькаўшчына**“, 2) прырода-апісальны — „**З палеткаў і лясоў**“, 3) любоўны—„**Спатканьне з Эросам**“ і 4) імпрэсыяльна-рэфлексыйны — „**Думы і настрої**“.

Шануючы, неад'ёмнае права кожнага песьняра да гэтак званых „паэтыцкіх вольнасьцяў“, мы ня будзем, падобна нікаторым нашым крытыкам, чапляцца да кожнае формы і канчатку, дакараючы аўтору слоўнікам Насовіча ці якім Правапісам.

Пакідаючы гэткую тонкую „эрудыцыю“ іншым, мы ня будзем затрымлівацца на драбніцах і няўхільных у кожным творы хібак, а толькі агледзім з роскашай і захопленьнем гэную сьвятыню зачараванага характва, якой з'яўляецца для нас зборнік „**На ростані**“. Зборнік гэны гэткі невялікі, а вершы ў ім гэткія прыгожыя, што нацта-ж трудна адзначыць лепшыя з іх, аднак-жа спрабуем зрабіць хоць з большага гэткую адборку.

У 1-шым аддзеле п. н. „Бацькаўшчына“ найбольш увагі зьвяртае верш п.н. „**Беларусь**“, поўны балючага пачуцьця і размаху, высока-мастацкі ў зваротах і форме.

З вершаў І-га аддзелу, адзначым яшчэ верш „**Палімпсэст**“, як выразны доказ моцных уплываў М. Багдановіча, і поўны імпэту і шырокага палёту „**Віхор**“.

У адд. II-гім п. н. „З палеткаў і лясоў“ маем цэлую візку поўных артызму, прывабных абразоў роднае прыроды ў кожную пару дня і году. Адзначыць тут які верш немагчыма, бо маем дачыненьне з стройнай суцэльнасьцяй. Гэтак сама трудна адзначыць які верш і ў чарговым аддзеле III-цім „Спаткані з Эросам“, падкрысьлім толькі, вынятковую **прыгожасьць** любоўных настрояў і дум.

Затое ў апошнім аддзеле IV-тым „Думы і настрої“ некалькі вершаў прыкоўваюць зразу ўвагу і глыбока западаюць у душу.

Прадусім гэткі маленечкі верш, як „**Дума мая тужлівая**“..., наскрозь суб'ектыўны і нагадываючы музыку сваей сьпеўнасьцю.

Гэтак-жа цікавы чарговы верш „**Нікне ў імгле старана**“... поўны сымвалаў і імглістага містыцызму.

Моцна закранае душу і узварушвае поўны сыноўскай любові і тугі II-гі верш „**Маей матулі**“ (Ты чакаеш сына, ведаю і г. д.). Экспрэсія і сіла пачуцьня ў гэным вершы нязвычайная!

Далей знаходзім поўны далікатнага суму верш да сьмерці „**Прытулі сябра слабога**“... і поўнае начных ценяў і ашалелых дум „**Бязсоньне**“.

У канцы адзначым яшчэ мастацкі пераклад аднаго з „Крымскіх сонэтаў“ Міцкевіча п. н. „**Акерманскія сьцяпы**“, не ўступаючы ў сваей дасканальнасьці гэткім-жа перакладам Купалы. Гэтулькі аб зборніку.

У апошніх яго „**Вершах аб Вільні**“, напісаных **сёлета** ў Празе, ахвяраваных п. А. Луцкевічу і зьмешчаных у № 5 „**Студэнскай Думкі**“, — бачым з прыемнасьцю далейшы поступ аўтара ў кірунку намечаным у зборніку „**На ростані**“.

Прыглядаючыся да творчасьці Жылкі лічым, што ягоным заданьнем у беларускай літаратуры ёсьць **замена без часу загінуўшага М. Багдановіча**, на што ён мае ўсялякія даныя, будучы духова найбольш прыбліжаным да памершага Маэстро.

У зборніку „**На ростані**“, бачым аграмадны крок уперад у разьвіцьці ягонага таленту. Ён тут не „на ростанях“, а на правільным, здаровым шляху творчасьці і хай ужо з яго ніколі ня сходзе! Маглі-б толькі параіць яму большае знаёмства з польскай літэратурай ды-й чэскай, якія маглі-б аслабіць у ім расейскія ўплывы і аблягчыць здабыцьцё незалежнага, асабістага тону, спосабу выражэньня сваіх думак і пачуцьця.

Гэтак сама параілі-б яму заняцца перакладамі, да чаго нас прымушае мастацкі пераклад з Міцкевіча.

Беларускае-ж грамадзянства павінна паклапаціцца аб матэр'яльным становішчы і здароўі аўтара, які здаецца — слабагруды, каб ён меў час і магчымасьць тварыць і каб з ім не здарылася гэткага няшчасьця, як з Багдановічам, што згінуў праз нядбайнасьць на здароўе і благія абставіны жыцьця.

Паздраўляючы ад шчырага сэрца аўтара з дасюлешнімі вынікамі яго паэтыцкай дзейнасьці, заклікаем нашага песьняра да яшчэ жывейшай працы, чакаючы нецярпліва новых, што-раз то больш цэнных і арыгінальных твораў.

**Язэп Сьветазар.**

